№№49–50
(3588–3589)

27 сакавіка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага Сцяга.*
*Дваццаць пятае Сакавіка —*
*Наша Свята, пароль і прысяга!*

Рыгор БАРАДУЛІН.

## 31 сакавіка — агульнагарадскі суботнік

У Мінгарвыканкаме спадзяюцца, што ва ўборцы горада пасля зімы разам з камунальнымі службамі прымуць актыўны ўдзел і яго жыхары: працоўныя калектывы, навучэнская моладзь, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый, насельніцтва па месцы жыхарства. На агульнагарадскі суботнік таксама выйдуць работнікі Мінгарвыканкама і адміністрацый раёнаў.

З НАГОДЫ

# Хлусня з экранаў БТ

— Я даўно не гляджу БТ...

— Думаюць, людзі не заўважаюць іх хлусню, дык яна ж бачна няўзброеным вокам...

— Замест праўды вешаюць даверлівым беларусам локшыну на вушы...

Такія і падобныя выказванні чуюцца на кожным кроку, як толькі заходзіць гаворка пра беларускае тэлебачанне. І ў гэтым ёсць рацыя. Вунь і ў нядзелю вечарам хлусня лілася патокам з тэлеэкранаў. Паглядзіце, шаноўныя чытачы, на здымкі, зробленыя падчас святкавання 94-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Што, ля Акадэміі навук сабралася толькі 200 чалавек, як паведамілі хлусы з БТ? Журналісты "Народнай Волі" вялі прамы рэпартаж з месца падзеі і могуць з абсалютнай дакладнасцю сказаць: перад тым як рушыць у накірунку плошчы Бангалор, ля Акадэміі навук было каля дзвюх тысяч чалавек. Заўважце, не 200, а каля 2000! Спадары з дзяржаўнага тэлебачання схлусілі, занізіўшы колькасць удзельнікаў акцыі прыкладна ў 10 разоў! І дарэмна спасылацца на тое, што такую лічбу называлі міліцэйскія начальнікі.

Дарэчы, падчас шэсця колькасць людзей, якія вырашылі прадэманстраваць сваю грамадзянскую пазіцыю, толькі павялічвалася. Чаму б не паказаць панарамныя здымкі вулічнай дэманстрацыі! Тады гледачы самі ўбачылі б, колькі людзей на самай справе ішло пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Дык не, паказалі нейкую купку людзей: маўляў, вось яны ўсе, хто з'явіўся на акцыю. Хлусня і толькі! Рэпарцёры "Народнай Волі" засведчылі: калона людзей, якая рухалася па тратуары да плошчы Бангалор, расцягнулася ад вуліцы Я.Коласа амаль да вуліцы М.Багдановіча. І ў ёй ужо было не 200 чалавек, а нават болей за 2000.

Іншая справа — не ўсе дэманстранты пайшлі на пляцоўку "для выгулу сабак". Многія палічылі абразай гонару хлюпацца ў вадзе і гразі і за нейкую сотню метраў згарнулі сцягі, расцяжкі, плакаты і пачалі разыходзіцца.

...Так, нельга сказаць, што для таго, каб адзначыць 94-я ўгодкі БНР, у Мінску сабраліся дзясяткі, сотні тысяч чалавек, але і нельга так нахабна хлусіць, як гэта было зроблена на каналах БТ у нядзелю вечарам. Падаткаплацельшчыкі папаўняюць бюджэт дзяржавы не для таго, каб за іх грошы іх жа і аблапошвалі.

**Кастусь КАРАЛЬКОЎ.**

МІЖ ІНШЫМ...

## За шэсце і мітынг трэба заплаціць мільёны рублёў

Немалую суму выставілі арганізатарам акцыі мясцовыя ўлады.

Паводле законаў, арганізатары вулічнай акцыі павінны аплаціць ахову грамадскага парадку, а таксама выдаткі, звязаныя з медыцынскім абслугоўваннем і прыбіраннем тэрыторыі. Суму вызначаюць мясцовыя ўлады.

Пытанне пошуку грошай пакуль застаецца адкрытым. *"Будзем збіраць пасяджэнне аргкамітэта, каб вырашыць пытанне, як сумесна сабраць неабходную суму",* — сказаў БелаПАН **Віктар Івашкевіч.**














Фота Антона Матолькі і Яўгена Ерчака.

ПАЛІТКУХНЯ

## *Віталь РЫМАШЭЎСКІ: «Мы пачынаем актыўную кампанію байкоту...»*

Аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" абвясціў стратэгію на 2012 год.

*"Былі вызначаны ўмовы, пры якіх мы маглі б удзельнічаць у наступных парламенцкіх выбарах,* — паведаміў сустаршыня аргкамітэта Віталь Рымашэўскі. — *Гэтыя ўмовы былі супольна з іншымі палітычнымі сіламі дасланы прадстаўнікам беларускіх улад. Галоўныя сярод іх — вызваленне палітвязняў, змена выбарчага заканадаўства, свабодны падлік галасоў, свабода СМІ і дзейнасці палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў. Ніводнае з гэтых патрабаванняў не было выканана, і з 25 сакавіка мы пачалі актыўную кампанію байкоту".*

Паводле слоў палітыка, у гэтай кампаніі будуць выкарыстоўвацца не толькі традыцыйныя формы агітацыі, такія як абход кватэр, распаўсюджванне ўлётак, пікеты, размовы з грамадзянамі, але і актыўная праца ў інтэрнэце.

ТЫМ ЧАСАМ

## *Аляксандр Лукашэнка патрабуе правесці парламенцкія выбары, каб не было сорамна перад людзьмі*

*— Вас таксама тычыцца, як і прадстаўнікоў папярэдніх абласцей, тое, што ў нас прыкладна паўгода засталося да парламенцкіх выбараў. І нам трэба прымаць сур'ёзныя рашэнні для таго, каб падысці да гэтых парламенцкіх выбараў на адпаведным узроўні, каб не было сорамна перад людзьмі,* — заявіў Лукашэнка, прымаючы ў панядзелак з дакладамі старшыняў мінскіх аблвыканкама і гарвыканкама Барыса Батуру і Мікалая Ладуцьку.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# «Политическим» — сидеть, народу — страдать

Евросоюз вновь расширил свои "черные списки" за счет белорусских силовиков, бизнесменов и их компаний. Минск нервно ответил, что в таком случае послы ЕС могут в Беларусь не возвращаться. Европа возразила, что до освобождения политзаключенных этого и ждать не стоит... Новости из Минска и Брюсселя напоминают обмен ударами.

Белорусская пропаганда объясняет очередное обострение самыми разными причинами — от глобальных геополитических противоречий до *"Европа защищает белорусских террористов".* Только одну версию, которая на самом деле соответствует действительности, пропагандисты старательно обходят молчанием. На самом деле Европа требует не много — чтобы белорусская власть прекратила репрессии и освободила из тюрем политзаключенных.

Почему это требование оказалось невыполнимым?

Александр Лукашенко недавно заявил, что основной принцип его политики — принцип справедливости. Это хороший повод рассмотреть ситуацию с этой точки зрения.

...В пятницу Брестский областной суд огласил приговор людям, которые отвечали за безопасность производства на "Пинскдреве", но допустили нарушение всех мыслимых норм и правил техники безопасности. В результате пожара погибли 14 человек, еще 6 получили ранения. Трагедия потрясла не только Пинск, но и всю Беларусь. И что? Самый жесткий приговор за то, что погибли и покалечились люди, — четыре года колонии-поселения. Главному виновнику вообще дали возможность съехать за границу.

А теперь вспомним другой суд и другой приговор. Витебский активист Сергей Коваленко залез на новогоднюю елку и вывесил на ней бело-красно-белый флаг. При этом никто не пострадал, никто не покалечился. Наоборот, многие искренне радовались, увидев, как развевается на вершине красавицы-елки национально-историческое бело-красно-белое полотнище. Коваленко за содеянное получил 2 года и 1 месяц лишения свободы.

Это справедливые приговоры? Это справедливые наказания?

Другой пример. В том же Пинске женщина убила 8-месячного сына. Ребенок плакал, и она в бешенстве начала бить его по голове стеклянной бутылочкой для кормления. Мамаше дали пять лет ограничения свободы без направления в места заключения. А вот бывший кандидат в президенты Андрей Санников никого не убил, не избил и даже ни на кого не замахнулся. Но он осужден на пять реальных лет заключения в колонии усиленного режима.

Это справедливо? Наказания соответствуют содеянному?

Нам уши прожужжали про гуманизацию белорусского уголовного законодательства, про то, что заключение — крайняя мера для особо опасных преступников, про то, что наказание во всех приемлемых случаях не должно быть связано с лишением свободы. Море примеров, когда бизнесменов, уличенных в сокрытии доходов и уклонении от уплаты налогов, разоблачали, наказывали рублем и отпускали. Почему тогда не отпустили правозащитника Алеся Беляцкого? Почему он остается в статусе зэка?

По-моему, ответ очевиден не только в европейских столицах. Покажите мне хотя бы одного белоруса, который считает, что Андрей Санников, Николай Статкевич, Алесь Беляцкий настолько опасны для белорусского общества, что их надо держать в тюрьме, невзирая на международные санкции, не обращая внимания на репутационные издержки страны. Таких людей не видно даже среди сторонников Александра Лукашенко. По крайней мере, ни один чиновник, ни один пропагандист до сих пор не решился выступить с обоснованием лозунга "Должны сидеть!". Наоборот, высказывается прямо противоположное мнение. Например, бывший депутат и бизнесмен Роман Ананьев, который в прошлом номере "Народной Воли" попросил внести его в список невъездных в Евросоюз, одновременно написал: "Обладай я сегодня правом законодательной инициативы, то обязательно инициировал бы в парламенте принятие закона об амнистии лиц, участвовавших в беспорядках 19.12.2010 года..."

Так почему же политзаключенные остаются в тюрьмах? Что мешает Александру Лукашенко их выпустить и снять напряженность в отношениях с Европой? Почему главе государства легче смириться с тем, что в топку международных санкций попадают уже не только персоны, но и белорусские компании (а значит, опосредованно — люди, в этих компаниях работающие, страдает экономика в целом), нежели проявить великодушие и гуманность, освободив из тюрем своих политических оппонентов?

Есть несколько вариантов ответа на этот вопрос.

Самый распространенный — месть, желание показательно расправиться, запугать, раздавить...

На мой взгляд, этот вариант объяснения происходящего себя исчерпал еще в конце прошлого года, когда Андрей Санников все-таки написал прошение о помиловании. Для реванша оскорбленному самолюбию этого было бы достаточно. Тем не менее Лукашенко никого не освободил.

Второй ответ — наглость. Путину нужен Евразийский союз? Нужен. Без Беларуси он будет полноценным? Не будет. Союз может начинаться в ситуации, когда одна из стран-членов — банкрот? Не может... Вот поэтому Лукашенко действует по принципу "Будет так, как я хочу!". А Москва, исходя из этой логики, в любом случае в обиду не даст, прикроет.

Другое дело, что на месте Лукашенко многие бы поостереглись вручать свою судьбу хозяевам Кремля — хотя бы потому, что они люди с хорошей памятью (если не сказать злопамятные). И просто сложно поверить, что Александр Григорьевич повел настолько рискованную игру.

Потому не исключено, что правильный ответ — третий.

Несмотря на кажущуюся эмоциональность и субъективность белорусской "большой политики", как правило, в ней присутствует холодный расчет. Часто — простой и циничный.

В нынешней ситуации он тоже просматривается. По признанию премьер-министра Михаила Мясниковича, Беларуси в этом году надо найти 18 миллиардов долларов инвестиций. Экономисты сходятся во мнении, что белорусской экономике ежемесячно нужен минимум 1 миллиард долларов внешнего финансирования, в противном случае случится "повторение пройденного" — обвал рубля, очередной резкий рост цен, финансовый коллапс... Но этих денег мы не нашли. И, скорее всего, не найдем, так как международные финансовые институты отказались предоставлять Беларуси кредиты. То есть очень может быть, что стране вновь предстоит пережить сложные времена, когда "белорусское экономическое чудо" ударит по кошельку каждого. И если говорить об этом сценарии, то не исключено, что власти понимают большую вероятность такого удара и уже сейчас к нему готовятся. В том смысле, что готовятся объявить виновных: Запад, враги, "пятая колонна", санкции... Это ведь очень удобно — одним махом снять с себя ответственность и за экономические провалы, и за обеднение людей.

В любом случае, сегодня пропаганда намеренно идет на шулерство, внушая людям, что Беларусь попала под санкции из-за расстрела "витебских террористов". А это значит, что власть прекрасно знает реальные общественные настроения и просто не может объяснить правильность нынешней политики президента. Ведь какими бы ни были причины, формулируется нынешняя политика предельно просто: политические будут сидеть, даже если народ из-за этого будет страдать.

SOS!

## *Сяргея Каваленку хочуць прызнаць псіхічна хворым?*

*Толькі ў гэтым выпадку яго можна будзе законна ў прымусовым парадку выводзіць з шматдзённай галадоўкі*

Учора раніцай намеснік старшыні КХП—БНФ Юрась Беленькі разам з Лідзіяй Каваленка, маці віцебскага актывіста, які галадае за кратамі, былі на прыёме ў начальніка мінскага СІЗА №1 палкоўніка Краўчанкі. Высветлілася, што ў сталіцы Сяргея Каваленкі ўжо няма. Ноччу 26 сакавіка яго этапіравалі ў шпіталь, які знаходзіцца на тэрыторыі калоніі "Віцьба-3".

*"З размовы з начальнікам СІЗА я зразумеў, што кіраўніцтва гэтай установы насамрэч баялася, каб з Сяргеем Каваленкам, не дай Бог, не здарылася нешта страшнае,* — сказаў у размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" Юрась Беленькі. — *Таму адзінае законнае выйсце для іх — гэта накіраванне Каваленкі ў спецыялізаванае псіхіятрычнае аддзяленне, якое знаходзіцца пры калоніі "Віцьба-3" і ўваходзіць у сістэму МУС, а не Міністэрства аховы здароўя. Згодна з дзеючым заканадаўствам, на падставе канкрэтнага дыягназу чалавека можна будзе выводзіць з галадоўкі прымусова".*

Па словах Беленькага, класці Сяргея Каваленку ў звычайны шпіталь супрацоўнікі СІЗА не сталі на той падставе, што той адмаўляўся пісаць заяву аб добраахвотным выхадзе з галадоўкі. *"Сам жа Сяргей на сустрэчах з роднымі заяўляў, што не меў гарантый таго, што пасля напісання такой заявы яго пакінуць у шпіталі, а не вернуць назад у СІЗА",* — патлумачыў Беленькі.

Нагадаем, у лютым бягучага года Сяргей Каваленка быў асуджаны судом Першамайскага раёна Віцебска на 2 гады і 1 месяц зняволення за парушэнне правіл знаходжання на "хатняй хіміі", якую ён атрымаў за тое, што вывесіў бел-чырвона-белы сцяг на навагодняй ёлцы Віцебска.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ДАРЭЧЫ

## Алена Каваленка звярнулася да Аляксандра Лукашэнкі і Патрыярха ўсяе Русі Кірыла

Здарылася гэта на мітынгу, прысвечаным 94-м угодкам абвяшчэння БНР.

*"Я звяртаюся з просьбай да Аляксандра Лукашэнкі,* — сказала Алена Каваленка. — *Праявіце хрысціянскую міласэрнасць і вызваліце з турмы майго мужа і іншых палітвязняў".*

Акрамя таго, сям'я Сяргея Каваленкі накіравала ліст Патрыярху Маскоўскаму і ўсяе Русі Кірылу: *"Сваёй галадоўкай Сяргей Каваленка дамагаецца таго, каб яму аказалі кваліфікаваную медыцынскую дапамогу ў звычайнай бальніцы, знялі з яго несправядлівыя абвінавачанні і вызвалілі з турмы,* — гаворыцца ў лісце. — *Калі просьба будзе задаволена ўладамі, ён гатовы спыніць галадоўку. Турэмная адміністрацыя адмаўляецца шпіталізаваць зняволенага ў бальніцу з годнымі ўмовамі лячэння. Зараз выкананне гэтай умовы залежыць ад волі прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.*

*Мы ведаем, што для прэзідэнта Беларусі Вы з'яўляецеся высокім аўтарытэтам. Таму молім Вас звярнуцца да Аляксандра Лукашэнкі, каб ён праявіў хрысціянскую міласэрнасць і гуманнасць у дачыненні да паміраючага".*

СЫР-БОР

# «Паветраная вайна» паміж Масквой і Мінскам: тайм-аўт да чацвярга

Учора прыкладна ў 6.30 раніцы кіраўніцтва нацыянальнай авіякампаніі "Белавія" атрымала тэрміновую тэлеграму з "Росавиации". У ёй паведамлялася, што расійскі бок адклікае дазвол на выкананне рэгулярных рэйсаў беларускай авіякампаніі па маршруце Мінск—Масква—Мінск. У адказ на гэта беларусы адклікалі дазволы на пералёты ў Мінск ва ўсіх расійскіх авіяперавозчыкаў. Самалёты не ўзляцелі, пасажыры не маглі дабіцца нічога ўцямнага, інфармагенцтвы выдалі паведамленні пра "паветраную вайну" паміж расійскай і беларускай сталіцамі...



Як высветлілася, сыр-бор разгарэўся з-за жадання расіян уласнымі сіламі рабіць пяты, дадатковы, штодзённы рэйс у беларускую сталіцу.

Намеснік генеральнага дырэктара авіякампаніі "Белавія" Ігар Чаргінец растлумачыў: *"Справа ў тым, што, згодна з міжурадавым пагадненнем паміж Беларуссю і Расіяй, якое дзейнічае з 1997 года, абодва бакі маюць права на парытэтную колькасць рэйсаў. Так было да 26 сакавіка: з Масквы ў Мінск ляталі чатыры самалёты, і чатыры рэйсы былі з Мінска ў Маскву. Між тым расійскі бок папрасіў у беларускага боку пяць рэйсаў, што парушае парытэт. Беларускі бок адмовіў. Пасля гэтага і ўзнікла нестандартная сітуацыя".*

На думку Ігара Чаргінца, расійскі бок дамагаецца павелічэння колькасці рэйсаў з Масквы ў Мінск для таго, каб прыбраць з гэтага накірунку авіякампанію "Белавія". Ён дадаў, што на сённяшні дзень маршрут Мінск—Масква—Мінск загружаны толькі на 50—55%, а павелічэнне колькасці рэйсаў зробіць нявыгаднымі гэтыя перавозкі. *"Усё гэта робіцца для таго, каб выбіць канкурэнтаў, каб атрымаць перавагу",* — сказаў Чаргінец. Але не першы дзень расійскія і беларуская авіякампаніі канкурыруюць паміж сабой, і тым не менш да такіх ультыматыўных крокаў справа раней не даходзіла.



Пакуль беларускія і расійскія авіяцыйныя ўлады высвятлялі, хто правы, хто вінаваты, з Нацыянальнага аэрапорта "Мінск" своечасова не змаглі падняцца ў паветра два самалёты рэйсамі на Маскву. Ад гэтага пакутавалі простыя пасажыры — каля 180 чалавек не змаглі своечасова апынуцца ў Белакаменнай.

Як стала вядома "Народнай Волі", пытанне аб аднаўленні паветраных зносін паміж Мінскам і Масквой вырашалася аж на ўзроўні ўрадаў дзвюх краін. У выніку авіярэйсы на Маскву былі адноўлены. Два ранішнія затрыманыя рэйсы адправіліся ў Маскву ў 11.00 і 11.20. Але гэта не значыць, што сітуацыя ўрэгулявана.

*"Пакуль дзейнічае часовае пагадненне,* — сказаў Ігар Чаргінец. — *Беларускі бок пайшоў на саступкі, дазволіўшы расіянам рабіць пяць рэгулярных рэйсаў з Масквы ў Мінск. Але гэты дазвол будзе дзейнічаць да 29 сакавіка, калі павінны прайсці перамовы па гэтым пытанні".*

Пры гэтым ужо цяпер вядома, што расіяне не маюць намеру здаваць свае пазіцыі. *"Расія прапануе зняць усе абмежаванні як па колькасці перавозчыкаў, так і па частаце і геаграфіі палётаў. Мы будзем прапаноўваць адмяніць неабходнасць узгаднення выхаду на маршрут з прызначанымі перавозчыкамі",* — заявілі ў Міністэрстве транспарту Расіі.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## *Анатоль Лябедзька супраць МУС і Міністэрства юстыцыі*

*Лідар АГП звярнуўся ў суд Цэнтральнага раёна Мінска з судовым іскам да гэтых ведамстваў. Ён патрабуе прыцягнуць да адказнасці вінаватых у парушэнні яго канстытуцыйнага права на свабоду перамяшчэння.*

*"Наколькі я ведаю, пакуль што дзеянне Канстытуцыі ў Беларусі не прыпынена,* — адзначыў Анатоль Лябедзька. — *А з гэтага вынікае, што напісанае там павінна выконвацца на практыцы. І за свае правы трэба змагацца, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці, нават гэты агідны суд".*

Як вядома, Анатоля Лябедзьку не выпусцілі з Беларусі 7 сакавіка. А 20-га ён атрымаў тлумачэнні ў Аддзеле грамадзянства і міграцыі Цэнтральнага раёна Мінска, з якіх вынікала, што ў палітыка існуюць часовыя абмежаванні на выезд з тэрыторыі Беларусі. Абмежаванні былі накладзены ў адпаведнасці з лістом Мінюста ад 5 сакавіка на падставе інфармацыі, што Лябедзька "ўхіляецца ад абавязацельстваў, накладзеных на яго судом". Але што гэта за абавязацельствы, не тлумачылася.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## *Беларусы — самыя эрудзіраваныя*

*Каманда БДУ з арыгінальнай назвай "Гвярздонь праз Сяродку" выйграла Адкрыты чэмпіянат ВНУ Расіі "Што? Дзе? Калі?".*

Дарэчы, склад каманды выключна мужчынскі: магістранты **Павел Малецкі** (гістфак) і **Улад Парыцкі** (філфак), старшакурснікі з гістфака і філфака **Яўген Ляшковіч** і **Дзмітрый Мядзведзеў**, студэнты 3-га курса геаграфічнага факультэта **Станіслаў Алімпаў** і юрыдычнага каледжа **Дзмітрый Паўлавец**.

Беларускія хлопцы змаглі абысці 40 каманд з наймацнейшых універсітэтаў Расіі, Украіны і Беларусі. У фінале "Гвярздонь праз Сяродку" "счапіліся" са студэнтамі Вышэйшай школы эканомікі з Масквы. У выніку — выйгрыш з перавагай у адзін бал.

Дарэчы, назва "Гвярздонь праз Сяродку" не здаецца такой ужо дзіўнай пры бліжэйшым разглядзе. Нарадзілася яна два гады таму, калі хлопцы вярталіся з турніру па інтэлектуальных гульнях у Смаленску. На аўтавакзале на вочы знаўцам трапіўся аўтобус, які ідзе ў вёску Гвярздонь праз вёску Сяродка...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

РЭАКЦЫЯ

## *Ці будуць настаўнікі адказваць за адзнакі, якія яны выстаўляюць выпускнікам?*

Мінулагодняе тэсціраванне выпускнікоў школ пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы засведчыла, што адзнакі, выстаўленыя настаўнікамі, не заўсёды адпавядаюць ведам учарашніх школьнікаў.

Гэта выклікае пэўныя хваляванні ў педагогаў. Хто-ніхто пытаецца: а ці не будуць уводзіцца пакаранні для тых настаўнікаў, чые вучні праваліліся на тэсціраванні.

*— Калі настаўнік ставіў вучню сямёркі і васьмёркі, а на тэсціраванні вучань не змог справіцца з элементарнымі заданнямі, зразумела, могуць узнікнуць адпаведныя пытанні,* — сказаў міністр **Сяргей Маскевіч.** — *Гэта самае страшнае, калі чалавек неадэкватна сябе ацэньвае. Менавіта высвятленнем гэтых фактаў мы і будзем займацца. І, думаецца, на ЦТ будуць прыходзіць менавіта тыя, хто скіраваны вучыцца ў вышэйшай навучальнай установе.*

САНКЦЫІ

# «Чорны спіс» папоўніўся

*Афіцыйнае выданне Еўрасаюза Official Journal of the European Union у суботу апублікавала новы дадатак да спісу беларускіх чыноўнікаў і кампаній, супраць якіх дзейнічаюць санкцыі ЕС.*

Да ранейшага спісу даданіся новыя асобы:

— **Юрый Чыж,** уладальнік холдынга "Трайпл";

— **Анатоль Тарнаўскі,** уладальнік кампаніі "Юнівест-М";

— **Алена Жук,** суддзя суда Першамайскага раёна Віцебска, якая судзіла Сяргея Каваленку;

— **Дзмітрый Лутаў,** пракурор на працэсе Сяргея Каваленкі;

— **Хазалбек Атабекаў,** палкоўнік, камандзір спецыяльнай брыгады ўнутраных войск;

— **Алег Чарнышоў,** палкоўнік антытэрарыстычнага падраздзялення КДБ "Альфа";

— **Аляксей Арлоў,** кіраўнік СІЗА КДБ;

— **Іван Санько,** маёр, старшы следчы КДБ;

— **Павел Траулька,** падпалкоўнік, былы супрацоўнік ваеннай контрразведкі КДБ, цяпер старшыня прэс-службы Следчага камітэта Беларусі;

— **Дзмітрый Сухаў,** падпалкоўнік вайсковай контрразведкі КДБ;

— **Сяргей Алейнікаў,** супрацоўнік шклоўскай калоніі, маёр;

— **Вадзім Шамёнаў,** супрацоўнік шклоўскай калоніі, капітан.

Кампаніі, якія трапляюць пад санкцыі:

— маюць дачыненне да Уладзіміра Пефціева, які раней быў уключаны ў "чорныя спісы": ТАА "Дзелавая сетка", ЗАТ "Сістэмы інвестыцый і інавацый", ПУП "Сен-Ко", ПУП БТ "Інвест", спіртзавод "Аквадзіў", "Белтэх Холдынг", "Спецпрыборсервіс", "Тэхнасаюзпрыбор";

— маюць дачыненне да Юрыя Чыжа і ТАА "Трайпл": СТАА "НафтаХімТрэйдынг", ЗАТ "Аскарготэрмінал", ТАА "Трайплметалтрэйд", ТАА "Бярозаўскі камбінат сілікатных вырабаў", СП ТАА "Трайпл-Тэхна", СТАА "Варыянт", СТАА "Трайпл-Дэкор", СЗАТ "Кварцмелпрам", СЗАТ "Альтэрсалюшнс", СЗАТ "Прастормаркет", СП ТАА "Акватрайпл", ТАА "Ракаўскі бровар", ДСАК "Лагойск", "Трайпл-Агро", ЗАТ ФК "Дынама-Мінск", СТАА "Трайплфарм", ЗАТ "Трайплфарм".

— маюць дачыненне да Анатоля Тарнаўскага: "Юнівест-М", даччыныя кампаніі: ЗТАА "Юніс Ойл", СТАА "Юнівест-БудІнвест".

Такім чынам, зараз у "чорны спісы" ЕС уваходзяць 243 асобы на чале з Аляксандрам Лукашэнкам і 32 кампаніі з Беларусі.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Радаслаў СІКОРСКІ: «Санкцый можна было пазбегчы»

Міністр замежных спраў Польшчы **Радаслаў Сікорскі** сказаў журналістам у Бруселі, што яго не радуе ўхваленне Саветам міністраў ЕС дадатковых санкцый супраць Мінска.

*"Мы ўвялі дадатковыя санкцыі ў адносінах да Рэспублікі Беларусь. Гэтых санкцый, я хачу падкрэсліць, можна было б пазбегчы, калі б улады Беларусі сышлі са шляху рэпрэсій супраць уласных грамадзян, калі б сітуацыя з правамі чалавека там паляпшалася, а не пагаршалася. Санкцыі не даюць мне ніякага задавальнення, бо мне хацелася б, каб дачыненні з Беларуссю адбываліся паводле прынцыпу "большае за большае", а не паводле прынцыпу "меншае за меншае". Але, на жаль, выбар тут быў зроблены прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам",* — сказаў Радаслаў Сікорскі.

Польскі міністр таксама паведаміў, што ЕС мае намер прапанаваць Беларусі "мадэрнізацыйны пакет" з канкрэтнай фінансавай дапамогай, калі Беларусь уступіць на шлях павагі да правоў чалавека і дэмакратычных прынцыпаў:

*"Я нагадаю, што гэтая ініцыятыва выйшла ад прэм'ер-міністра Польшчы Дональда Туска падчас саміту "Усходняга партнёрства" ў Варшаве. Гэтая ініцыятыва была прынята Еўрасаюзам і мае шырокую падтрымку сярод краін-сябраў. Справа ў тым, каб загадзя дамовіцца аб шчодрай праграме дапамогі — эканамічнай, інстытуцыянальнай і фінансавай — для Беларусі, каб гэтая дапамога была заахвочваннем для ўлад Беларусі да сыходу са шляху рэпрэсій".*

Нагадаем, што падчас вышэйзгаданага саміту ў Варшаве, які праходзіў 30 верасня 2011 года, Дональд Туск заявіў, што Еўрасаюз выказаў намер падрыхтаваць адмысловы пакет дапамогі для Беларусі, які можа мець фінансаванне ў 9 мільярдаў долараў.

РЭАКЦЫЯ МІНСКА

## Немэтазгодна!

*"У сённяшніх умовах беларускі бок не бачыць неабходнасці ў прысутнасці на тэрыторыі Беларусі адкліканых амбасадараў дзяржаў, якія прагаласавалі за пашырэнне санкцый супраць Беларусі,* — заявіў начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар МЗС **Андрэй Савіных**. — *Беларускі бок шкадуе аб прынятым Саветам ЕС рашэнні пра ўвядзенне дадатковых санкцый адносна шэрагу беларускіх грамадзян і прадпрыемстваў. Гэты крок яшчэ больш аддаляе перспектывы нармалізацыі дачыненняў і аднаўлення дыялогу па адчувальных для бакоў тэмах. Еўрапейскія палітыкі знаходзяцца ў палоне канфліктнага мыслення, яны застаюцца закладнікамі логікі прымусу і шантажу. Мы вымушаны неадкладна прыступіць да рэалізацыі комплексу мер рэагавання. Пра такую магчымасць еўрапейскія партнёры былі пастаўлены ў вядомасць".*

ОФИЦИАЛЬНО

# Что мешает белорусам добывать нефть в России?

***Свою точку зрения по этому вопросу высказал в интервью tut.by посол России в Беларуси Александр Суриков.***



**— Беларусь уже давно высказывает желание участвовать в добыче нефти и газа в России, и эти проекты пока также остаются на уровне заявлений,** — заметили журналисты в ходе интервью.

— А какие проблемы? Никаких! Практика и мировая, и российская одна. Есть месторождение, объявляется конкурс на участие в разработке. На конкурс собираются и иностранные, и российские компании, и белорусские могут. Надо участвовать в конкурсе, платить деньги, а потом добывать. Других механизмов нет.

**— Даже для партнеров по ТС и ЕЭП?**

—- Есть и другой путь — обмен активами. Если будет оценка белорусского актива по нефтепереработке, возможен обмен этого актива на равновеликий в добыче. Но метод этот тоже рыночный.

К СЛОВУ

## *КамАЗ имеет международную оценку, белорусский МАЗ — нет*

***В ходе интервью российскому дипломату были заданы и другие вопросы***

**— При всех потенциальных выгодах для МАЗа от сотрудничества с КамАЗом холдинг так и не создан.**

— Проблема одна: нет оценки. Хотя есть обоюдное желание создать совместную структуру и не конкурировать на рынке ЕЭП, а, наоборот, попытаться через модернизацию обоих предприятий закрыть дорогу на внутренний рынок конкурентам и попытаться подвинуть их на внешних рынках. КамАЗ имеет международную оценку, белорусский МАЗ — нет. И предложенная одним из международных агентств оценка в 800 млн долларов не устроила белорусскую сторону. Заказали новую оценку. Но разница в оценках международных оценщиков большой не бывает.

**— Но сейчас еще Daimler вмешался в процесс, получив возможность нарастить свою долю в уставном фонде КамАЗа до блок-пакета.**

— Сейчас он владелец 10% и может наращивать свой пакет акций. И это неплохо, поскольку технологический уклад Daimler несколько выше, чем у МАЗа и КамАЗа. Не думаю, что Daimler будет возражать против создания совместной структуры. Ему тоже интересно укрупнение и повышение конкурентоспособности совместного актива.

**— В нефтехимии также зависло несколько проектов: "Лукойл" интересовался "Нафтаном", "Еврохим" — Гомельским химзаводом. И никакого движения.**

— Можно и дальше перечислять. Ни один проект не состоялся из-за отсутствия международной оценки. Есть просто разговоры. Оценка была у "Белтрансгаза" — по ней он и приобретен. Теперь у МАЗа — полуоценка выходит. А больше ни у кого. И дальнейшие разговоры о приходе инвесторов на крупные предприятия пока из области сложнопонимаемых намерений.

ПРАГНОЗ

## Напрыканцы сакавіка вецер і дождж

*На бягучым тыдні нас чакае няўстойлівае надвор'е.*

Як паведаміла БЕЛТА галоўны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Людміла Парашчук,** сёння на большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць ападкі ў выглядзе мокрага снегу і дажджу. Заўтра таксама на большай частцы тэрыторыі Беларусі пройдуць ападкі ў выглядзе дажджу. Тэмпература паветра ў начны час будзе блізкая да нуля. Днём чакаецца 3—10 градусаў цяпла. У чацвер 29 сакавіка часам будуць ісці дажджы. Тэмпература паветра ў начны час прагназуецца ад нуля да плюс 7 градусаў. Удзень чакаецца ад 4 градусаў цяпла на поўначы да 11 градусаў цяпла на поўдні краіны. У многіх раёнах — моцны парывісты вецер.

У пятніцу захаваецца пахмурнае, сырое і ветранае надвор'е. Тэмпературны рэжым застанецца ранейшым.

У суботу чакаецца мокры снег, на асобных участках дарог галалёдзіца. Паўсюль узмоцніцца вецер, яго парывы могуць дасягаць 15—20 метраў за секунду, а месцамі 21—24 метры за секунду. Тэмпература паветра ўначы складзе мінус 3 — плюс 3 градусы. Удзень прагназуецца 1—6 градусаў цяпла.

ЦЕНЫ

## *Дорожает проезд*

С 1 апреля в Минске проезд в общественном транспорте подорожает до 1,5 тысячи рублей за одну поездку. Информацию о грядущем подорожании в понедельник распространило белорусское телевидение, а позже ее уже подтвердили на предприятии "Минсктранс".

Напомним, что в середине февраля Министерство экономики Беларуси отклонило предложение "Минсктранса" о повышении стоимости проезда в столичном транспорте в феврале—марте 2012 года. Экономическое ведомство перенесло рассмотрение этого вопроса на второй квартал. Тогда предполагалось, что поездка в минском городском общественном транспорте подорожает до 1,8 тысячи рублей.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## А потым пытаемся: чаму балельшчыкі на футбол не ходзяць?

*У мінулыя выхадныя распачаўся чарговы чэмпіянат краіны па футболе.*

Многія балельшчыкі, якія захацелі ў суботу схадзіць на сталічны стадыён "Дынама", каб паглядзець матч адкрыцця сезона, у якім сустракаліся "Мінск" і БАТЭ, былі абураны. Аказалася, што праблема... набыць квіток.

*"Упершыню за 20 гадоў вырашыў наведаць адкрыццё чэмпіянату Беларусі,* — напісаў на форуме адзін з балельшчыкаў. — *Зараней (каля 12.00) прыйшоў у пятніцу ў касы стадыёна. Яны аказаліся зачыненымі, білеты не прадавалі. Працаваў ламбард, пункт абмену валюты, але не касы... Пайшоў у суботу акурат напярэдадні матча. І зноў не купіў білет! Чалавек 500—600 жадалі набыць квіткі, але працавалі, здаецца, усяго дзве касы. Пастаяў хвілін сорак пяць і пайшоў дадому... Хацеў паглядзець матч па тэлебачанні, але і там яго не паказвалі. А потым пытаемся: чаму балельшчыкі на стадыёны не ходзяць? Дваццаць гадоў не хадзіў і яшчэ дваццаць не пайду пры такіх адносінах да балельшчыка".*

Між тым кіраўніцтва ФК "Мінск" ужо прынесла прабачэнні балельшчыкам і паабяцала *"да наступных гульняў удасканаліць сістэму продажу квіткоў".*

Непрыемны інцыдэнт адбыўся і ў Гомелі, дзе праходзіў матч паміж мясцовай камандай і мінскім "Дынама".

— На двух балельшчыкаў "Дынама", якія выходзілі з магазіна, напалі 7—8 чалавек, — распавёў "Народнай Волі" спецыяліст па рабоце з балельшчыкамі сталічнага "Дынама" **Аляксандр Філіповіч**. — У выніку адзін з іх аказаўся ў бальніцы. Наколькі мне вядома, 25 сакавіка яму зрабілі аперацыю, але ён знаходзіцца ў коме. Ёсць затрыманыя. Усяго ж у Гомель ездзіла падтрымаць каля 750 фанатаў каманды.

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *Вынікі 1-га тура:"Славія" (Мазыр) — "Нёман" (Гродна) — 1:3, "Белшына" (Бабруйск) — "Брэст" — 3:1, "Мінск" — БАТЭ — 1:0, "Нафтан" (Наваполацк) — "Шахцёр" (Салігорск) — 1:2, "Гомель" — "Дынама" (Мінск) — 0:0.*

